# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

26 снежня 2014 года №52 (1026)


Адна зямля

Мядзел

Астравец

Смаргонь

Вілейка

Ашмяны

Маладзечна

Валожын

Мінск

2015

## Вясёлага Новага года!

## Дарагія чытачы!

Завяршаецца яшчэ адзін год, які мы правялі разам. Або вы толькі далучыліся да тых, хто з нецярпеннем чакае чарговай пятніцы, каб сустрэцца з нашай газетай, ці сочыць штодня за насычаным жыццём беларускага Павілля на сайце rh.by.

Мы не цураліся праблем, з якімі вы да нас звярталіся, шукалі і знаходзілі навіны, якія хвалявалі вас, вашых суседзяў. Мы, газетчыкі, таксама часцінка вас. Жывём па суседстве, водзім дзетак у тыя самыя садкі ці школы, ездзім тымі самымі аўтобусамі…

Мы разам радаваліся першай хуткаснай электрычцы, якая звязала наш рэгіён са сталіцай, перажывалі, калі ў маладзечанскай бібліятэцы абрынулася столь, а ў Камарове апошнія дні дажывала беларускамоўная школа, абураліся планам будаўніцтва жывёлагадоўчых мегакомплексаў. Разам радаваліся спартыўным перамогам землякоў і новым галасам на фестывалі "Адна зямля". Нашаму агульнаму 1000-му нумару.

Упэўнены, што вы таксама заўважылі і ацанілі новы дызайн газеты і сайта, новыя рубрыкі і тэмы, новых герояў.

Давайце разам рабіць добрыя справы. Разам заўважаць, што адбываецца вакол нас. Дзяліцеся сваёй радасцю з усімі. А мы вам у гэтым дапаможам.

З надыходзячым вас Новым годам! Здароўя вам і вашым блізкім, натхнення, дабрабыту і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

**Ад імя ўсяго калектыву рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Мяняецца расклад руху "Штадлера"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Змяненні – ад 29 снежня. Цяпер раніцай цягнік з Маладзечна на Мінск ідзе на 6:38. У Мінск прыбывае ў 7:37. Па нядзелях будзе хадзіць цягнік з Маладзечна на Мінск адпраўленнем у 20:25. Прыбывае ў 21:20. З Мінска на Маладзечна цягнік будзе хадзіць толькі адзін раз на дзень, у 18:55, прыбывае ў 19:50. Пра гэта паведаміла дзяжурны памочнік начальніка вакзала **Ларыса Дубовік**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Выберыце асобу года "Рэгіянальнай газеты"

**Цягам 2014 года штонумар мы распавядалі, што адбываецца ў нашым рэгіёне. Але за кожнай падзеяй і навіной – чалавек. Давайце разам адзначым, хто дасягнуў таго, чым можна захапляцца.**

Мы вызначылі тых, хто, на думку рэдакцыі, заслугоўвае быць у гэтым спісе. Але пераможцу выбіраць вам, шаноўныя чытачы. Галасуйце за аднаго з кандыдатаў або прапануйце кандыдатуру, якая не патрапіла ў спіс. Умова – пра гэтага чалавека "Рэгіянальная газета" або наш сайт расказвалі ў 2014 годзе.

Вынікі мы падвядзём 5 студзеня. У другім нумары за 2015 год мы назавём імя, каго чытачы "Рэгіянальнай газеты" назвалі чалавекам года.

### Топ-15 кандыдатаў на статус Асобы года па версіі "Рэгіянальнай газеты"

**Астравец**

1. Рэгіянальны каардынатар Аховы птушак Бацькаўшчыны **Анатоль Лоўкіс**, які пабудаваў драўляны рыбаход на адным з прытокаў Віліі, што накіроўвае ласасёвых супраць цячэння і ратуе іх.

**Ашмяны**

2. **Вадзім Лукашэвіч**, спявак. Атрымаў сёлета Гран-пры конкурсу "Адна зямля".

3. Васьмікласніца **Вікторыя Янушкевіч** і адзінаццацікласнік **Павел Сянкевіч**, якія выратавалі дваіх людзей, што танулі.

**Валожын**

4. **Георгі Каржанеўскі**, грамадскі актывіст, які да апошняга дня жыцця змагаўся, каб на месцы расстрэлу яўрэяў не будавалі дамы.

**Вілейка**

5. **Валеры Апарык**, скульптар, які ўпрыгожыў сёлета горад восьмай скульптурай.

6. **Вольга Коласава**, адна з арганізатараў прадуманых краязнаўчых імпрэзаў у Вілейцы, чые каштоўныя гістарычныя даследаванні часта з'яўляюцца ў "РГ".

**Смаргонь**

7. Валанцёр пад псеўдонімам **Ахрэм Белаброві**к. Адбудаваў Крэўскі замак у 3D.

8. **Вікторыя Міганові**ч, мадэль. Стала Міс Беларусь.

9. **Уладзімір Церабун**, скульптар. Распрацаваў мемарыяльны комплекс, прысвечаны падзеям першай Сусветнай вайны.

**Маладзечна**

10. **Віктар Жук**, настаўнік. Стаў пераможцам конкурсу "Настаўнік года".

11. Вучань 11 класа **Уладзімір Грахоўскі**, выратаваў дзіця. Двойчы нырaў за хлопчыкам, пакуль аднагодкі стаялі і смяяліся.

12. **Віталь Качаткоў**, музыкант, шахматыст, бізнесмен. Трапіў у топ-спіс аднаго з самых вядомых у свеце парталаў.

13. **Аляксей Кудзін**, шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе.

14. **Міхась Міхалевіч**, краязнаўца, доктар Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Заняў трэцяе месца сярод лепшых краязнаўчых тэкстаў у рэгіянальнай прэсе за артыкул "Як білі кабана на Каляды".

**Мядзел**

15. Аператар **Сяргей Трацэўскі** і майстар **Пётр Тачыцкі**, работнікі аўтазапраўкі. Рызыкуючы жыццём, яны патушылі пажар на запраўцы.

**Як прагаласаваць**

Паведаміце нумар і імя кандыдата:

1. Праз сайт rh.by
2. Пазваніце ці дашліце смс-паведамленне на нумар + 375 44 566 26 99
3. Па электроннай пошце
4. Па пошце на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.

**Рэдакцыя "РГ".**

Калаж Настассі РОЎДЫ.





КАЛЯДНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Кампот з вішняў

– Вось і Новы год сёння... Як час хутка ляціць. Прыедуць дзеці з горада. Добра, што хоць унучку Настачку на канікулы прывезлі. Не сумна хоць, – па-старэчы размаўляла сама з сабой Зося, калі спускалася ў склеп па агурочкі з памідорамі ды кампот да навагодняга стала.

Настачка яшчэ з вечара папрасіла, каб бабуля да блінкоў на снядане адкрыла слоік з кампотам. Кампоты ў Зосі і сапраўды атрымоўваліся насычанымі, духмянымі.

А вішнёвы – дык найсмачнейшы. Паўслоіка займалі вішні, якія захаваліся амаль такімі, якімі іх сарвалі летам з дрэва. Чырвоныя, буйныя, духмяныя…

– Настачка, дзетачка, уставай ужо. Хутка мама з татам прыедуць. Трэба ж хату прыбіраць, бы ж з горада і агеньчыкаў нейкіх навезлі, і ёлка стаіць у сенях, чакае, калі яе ўпрыгожваць будуць.

– Бабуля, а кампоцік будзе сёння, – у кухню прытэпала заспаная Настачка.

– Ідзі апранайся, будзе табе кампоцік!

Пакуль унучка снедала, Зося адкрыла слоік кампоту. Вішні высыпала ў спадачак, падала ўнучцы.

**Настачка, заплюшчыўшы вочы ад прадчування асалоды, паклала першую, самую буйную, вішню ў рот і... зморшчылася, скрывілася. Пасля выплюнула.**

– Бабуля, вішня горкая!

– Ай-я-яй, як так? Няўжо кампот скіс? Ну не еш, я табе другі слоік адкрыю. Во добра, што паглядзелі.

– А з гэтымі ягадкамі што рабіць? Прыйдзецца выкідаць?

– Не, навошта. Апранайся, пойдзем курачак пакормім. Гэтыя з'ядуць.

Куры ў Зосі былі, сапраўды, як з галоднага краю.

Толькі бабуля з унучкай пераступілі парог хаты, як да іх ног набеглі пярэстыя куры.

– А ну кыш адсюль, чэрці! Настачка, высыпай вішні, а то з рук вырвуць, – крыкнула Зося ўнучцы.– І бардовыя вішні пасыпаліся на снег.

За варотамі загудзела і сціхла машына.

– Мама з татам прыехалі! – ускрыкнула Настачка.

Малая тут жа забылася і пра вішні, і пра курэй. Кінулася да варотаў, павісла на шыі ў бацькі.

– А што вы прывезлі? – спытала Настачка, калі бацька адкрыў багажнік машыны і стаў вымаць адтуль сумкі.

– Бяры сумкі, у хаце паглядзіш, – адказаў бацька. – Ну што, жанчыны, рыхтуйце стол. Я пастаўлю ёлку, каб Настачка ўпрыгожвала. А потым мне яшчэ трэба з машынай павазіцца. Я пакорпаюся ў гаражы гадзінку, потым да вас далучуся.

Навагодні вечар паціху ўступаў у свае правы. У хаце па тэлевізары ішоў фільм: "Іронія лёсу". Жанчыны гутарылі, смяяліся і гатавалі салаты. Настачцы даверылі ўпрыгожваць ёлку.

Раптам дзверы ў хату адчыніліся, на парозе стаяў разгублены тата Настачкі.

– Што зрабілася? Нешта з машынай?

– Ды не.

**Зоя Іванаўна, у вас там куры ўсе падохлі.**

Гляджу, ляжаць ля куратніка, праз некаторы час зноў пагляджзеў. Не варушацца.

**– Ай-я-яй, што ж гэта робіцца, – залямантавала Зося і выбегла ў двор. – А божачкі, ды што ж такое, мае вы курачкі.**

Услед за Зосяй у двор кінулася ўсё сямейства. Сапраўды, каля куратніка ляжалі ўсе куры. Зося адразу зразумела, што ўсе яны падохнуць маглі толькі ад таго. Яны наеліся сапсаваных вішань. Настачка заплакала.

– А ну марш у хату, – загадала мама Настачкі. – Цябе тут не хапала! – Мам, ну што ты плачаш? Ну шкада, але што ж зробіш. Давай ідзі таксама ў хату, мы з Віцем іх абскубём. На вясну табе куранят купім. Ну, ты ж сама казала, што з імі цяжка.

Навагодні вечар працягваўся. Хаця настрой і быў сапсаваны, але, паўздыхаўшы яшчэ з гадзіну, Зося падумала, што ад свята ж нікуды не дзенешся. Новы год адзначылі весела. Толькі калі кладліся спаць, Зося, зірнуўшы ў сені на мех з пер'ем, спыталася ў зяця:

**– Віця, а куды ты курэй падзеў?**

– Ды пакінуў пакуль у куратніку. Заўтра з раніцы штосьці-небудзь прыдумаем.

Усю ноч Зося варочалася, уздыхала. Вырашыла, што раніцай яшчэ раз гляне на сваіх курачак, не магла паверыць у тое, што цяпер у яе гаспадарцы няма гэтай вечна галоднай чэкарадзі. Ледзьве дачакалася світанку. Устала, пабегла ў куратнік.

Зайшла і абамлела. Усе куры роўненька сядзелі на жэрдцы, прыцікаючыся адна да адной. Жывыя. Абскубеныя. Голыя.

– От ужо дзе! Наеліся вішань, якія забрадзілі і пазасыналі! Пайшлі ў хату вас забяру, памерзнеце ж, п'яніцы!

Зося па адной пераносіла курачак у хату. Пачуўся смех. Спачатку мужчынскі, потым дзіцячы, а пасля квактанне курыц. І зноў дружны смех усяго сямейства.

Пачыналася раніца Новага года.




У якасці ілюстрацыі выкарыстаная карціна Марыны Зэльдзіс "Дзяўчынка з вішнямі".



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

ДАРОГА

# Адкрылі новую транспартную развязку

**АШМЯНЫ. АСТРАВЕЦ.** Развязка ўвайшла ў склад аўтадарогі – паўночна-ўсходні абход Астраўца, які праектам падзелены на дзве часткі.

Завяршэнне другой чаргі дазволіла пусціць рух на Вільню з Ашмянаў па новай дарозе і на Смаргонь па развязцы, дзе робіць рэканструкцыю.

З'явіліся два пуцеправоды даўжынёй па 80 метраў па міжнароднай аўтамагістралі М-7 Мінск-Вільня. На транспартнай развязцы пад М-7 ёсць два пешаходныя падземныя тунелі з гафрыраваных труб. Яны дазваляюць жыхарам вёсак Кракоўка і Лыйлубка зручна дабірацца на працу ў Ашмяны, а дзецям – у школу.

На аб'екце асвоілі 92 мільярды рублёў. Усе гэтыя аб'екты значацца як пад'язныя да Беларускай АЭС.

**Паводле Мікалая ШЛЫКА, "Гродзенская праўда".**



АДУКАЦЫЯ

# Майстар-клас па вырабах з салёнага цеста далі навучэнцы выхаванцам прытулку

**МАЛАДЗЕЧНА. У дзяржаўным політэхнічным каледжы стала традыцыяй у апошні тыдзень лістапада праводзіць тыдзень спецыяльнасці "Тэхналогія харчовай вытворчасці".**

Сёлетні быў і цікавы, і насычаны. Навучэнцы пад кіраўніцтвам выкладчыкаў падрыхтавалі разнастайныя мерапрыемствы, якія раскрывалі сутнасць прафесіі і выклікалі зацікаўленасць удзельнікаў.

Навучэнцы 3 курса правялі майстар-клас па вырабе цукровых кветак з мастыкі і конкурс "Ану, дзяўчаты!". Хлопцы і дзяўчаты з чацвертага курса падрыхтавалі канферэнцыю па выніках тэхналагічнай практыкі.

Навучэнцаў спецыяльнасці запрасілі на ўрачысты сход, прысвечаны 70-годдзю Маладзечанскага хлебазавода. Там яны на свае вочы ўбачылі, які гонар і павагу маюць людзі, што робяць самы каштоўны прадукт – хлеб.

Кульмінацыяй тыдня спецыяльнасці быў майстар-клас па вырабе з салёнага цеста ў Маладзечанскім сацыяльна-педагагічным цэнтры з прытулкам для дзяцей.

Навучэнцы каледжа падрыхтавалі для дзетак і красворд, і загадкі, і прымаўкі пра хлеб, весела праспявалі прыпеўкі і запрасілі ўсіх танцаваць.

А найбольш дзеткам спадабаўся майстар-клас, на якім яны пад кіраўніцтвам навучэнцаў маглі сваімі рукамі рабіць рамонкі, пялёсткі, матылькоў з салёнага цеста.

Нават самыя маленькія сваімі ручкамі імкнуліся стварыць свой, не падобны на іншыя, шэдэўр.

Магчыма, хтосьці з іх у будучым і захопіцца прафесіяй хлебапекара.

**Жанна ТАЛЬКОЎСКАЯ, Маладзечна.**



ГРАМАДСТВА

# Святкуюць і Новы год, і дзень нараджэння

**МАЛАДЗЕЧНА. Аліна Кштальтная нарадзілася 1 студзеня. Аднак жанчына не лічыць, што гэта паўплывала на яе жыццё. Такі ж самы дзень, як і іншыя, кажа яна.**

Яе маме ставілі іншы тэрмін нараджэння дзіцяці.

– 31 снежня яна разам з сям'ёй адзначала Новы год, – расказвае Аліна. – Калі пачаліся схваткі, то спачатку думала, што перахвалявалася перад святам і хутка боль пройдзе. Аднак, калі боль пачаў узмацняцца, зразумела – нараджае.



Фота з архіва Аліны КШТАЛЬНОЙ.

Цяпер Аліне Кштальтнай дапамагае рыхтавацца да Новага года сын Максім.

### Спачатку адзначаюць Новы год, а потым дзень нараджэння

Сама Аліна заўважае, што яе нараджэнне на Новы год ніяк не паўплывала на жыццё, светаўспрыманне. Гэта такі ж звычайны дзень, як і іншыя.

– У маёй сям'і дзень нараджэння не лічыцца самым галоўным святам, – гаворыць жанчына. – Аднак, калі была маленькая, было крыўдна, што Новы год і дзень нараджэння супадаюць. Асаблівa за тое, што дораць адзін падарунак.

Звычайна ў сям'і Аліны спачатку адзначаюць Новы год, а дзень нараджэння пераносяць на два-тры дні пазней.

### Чакала, пакуль Дзед Мароз пазвоніць у званок

Як і ўсе дзеці, Аліна верыла ў Дзеда Мароза, чакала, пакуль той прынясе падарунак.

– Бацькі напярэдадні свята куплялі цукеркі або школьныя прыналежнасці, – узгадвае жанчына. – Пасля дамаўляліся з суседзямі, каб тыя ў касцюме Дзеда Мароза павіншавалі са святам. Таму ў пярэдадзень свята я заўсёды чакала, калі Дзед Мароз пазвоніць у званок і прынясе падарунак.

Самы запамінальны падарунак, на думку жанчыны, – гэта 21 ружа ад мужа.

### На ранішніках была Чырвонай Шапачкай

Касцюм шылі самі. Ён быў крышачку большы па памерах, але яго падгінаілі. На наступны год спадніцу адгінаілі, маленькая Аліна зноў ставілася Чырвонай Шапачкай.

Цяпер у жанчыны сваё дзіця, таму да свята сям'я рыхтуецца больш руплiва. Абавязкова падчас упрыгожвання дома яно дапамагае. Калі само нешта не можа зрабіць, то загадвае, куды што павесіць, куды паставіць пэўныя рэчы.

### Раней на Новы год было весялей

Новы год у сям'і Аліны – сямейнае свята. Звычайна на яго гатуюць адну каронную страву: гэта можа быць запечаная качка ці маленькае парася. Пасля бою курантаў члены яе сям'і пераапраналіся ў розныя касцюмы, выходзілі ў горад.

– Раней было весялей, – дзеліцца ўражаннямі жанчына. – Людзей было больш на вуліцах, усе ў розных касцюмах. А цяпер большасць адзначае свята дома.

Аліна прызнаецца, што, як і ў дзяцінстве, чакае ад Новага года цуд, свята. А святочны настрой узнікае, калі ў горадзе з'яўляецца святочная ілюмінацыя, ёлка.

**Галіна СІНІЦА.**

АДПАЧЫНАК

## Расіяне выбіраюць аграсядзібы са скідкамі

**МЯДЗЕЛ. "Расіяне адмаўляюцца ад замежных навагодніх пуцёвак", "Турыстаў з Расіі на шляху да навагодняга адпачынку ў Беларусі тармазнула дэвальвацыя".**

Гэткія загалоўкі ў інтэрнэце прымусілі пацікавіцца: якая сітуацыя на Нарачы, дзе расіяне складаюць большую частку адпачывальнікаў на Новы год?

### Аплацілі загадзя – не страшная і дэвальвацыя

Расіяне не адмаўляюцца ад адпачынку на аб'ектах Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Сярод іх – гасцінічны комплекс "Нарач" у цэнтры курортнага пасёлка.

– Практычна ўсе туры расіяне аплацілі загадзя – у кастрычніку-лістападзе, – расказала начальнік аддзела турызму **Людміла Краўчонак**. – Так што адмоў ад іх не было – хіба што па ўважлівых прычынах, як і заўсёды.

Ад снежня ў прэйскуранце гасцінічнага комплексу не засталося цэн у расійскіх рублях. Толькі у беларускіх, доларах і еўра.

У найбуйнейшым на курорце санаторыі "Прыазёрны" таксама адмоў ад навагодніх тураў няма.

– Усё, як і летась. Браніравалі і аплачвалі туры турысты загадзя. Усе навагоднія прадалі да пачатку лістапада, – кажа начальнік аддзела маркетынгу здраўніцы **Сяргей Нехвядовіч**.

У санаторыі засталіся цэны ў расійскіх рублях. У сувязі з падзеннем расійскай валюты іх павысілі: ніхто ж у страты працаваць не будзе. Але пры гэтым улічвалі магчымасці турыстаў.

Продажам навагодніх тураў на Нарачы ў многім паспрыяла тое, што расіяне аплачвалі іх загадзя, да большага падзення расійскага рубля. А якія ж перспектывы на будучыню?

– Пакуль прагназаваць цяжка. Але расіяне па-ранейшаму браніруюць нумары – на люты, сакавік. Бо адпачынак у Турцыі і Егіпце для іх яшчэ больш падаражэў, чым у нас, – адказвае Сяргей. – Для многіх важна, што мы прапануем не толькі адпачынак, але і якаснае лячэнне.

### Хто знізіў цану – славіў кліента

У аграсядзібах Мядзельскага раёна сітуацыя горшая. Каб завабіць кліентаў, многім з гаспадароў давялося зніжаць цэны:

– Той, хто своечасова з'арыентаваўся, скінуў цану, – здаў сядзібу на Новы год, – расказвае старшыня грамадскага савета аграсядзіб Мядзельскага раёна **Наталля Баран**. – Нехта не зніжаў цану, чакаў, мо ў снежні Расія адновіцца ад крызісу, людзі вырашаць, што Новы год – гэта Новы год, трэба ехаць адпачываць. Гэтага не атрымалася. Курс яшчэ ўпаў, людзям яшчэ больш стала не да свята. Таму многія гаспадары на Новы год будуць без кліентаў.

**Цікавасць да адпачынку на аграсядзібах з боку расіян упала значна, дзеліцца Наталля:**

– Летась было столькі электронных лістоў, тэлефанаванняў! А цяпер – адзінкавыя выпадкі, калі нехта патэлефануе, распытае.

Даводзіць Наталля, што цэны для расіян на адпачынак на аграсядзібах сталі "кусацца":

– На мінулы Новы год сярэдняга ўзроўню сядзіба ў Беларусі ад 31 снежня да 1 студзеня ці на раніцу 2 студзеня каштавала 500-700 долараў. Сёлета ў пераліку на расійскія рублі гэта атрымліваецца ўдвая больш. Той, хто і хацеў бы прыехаць, імкнецца знайсці такую самую цану ў расійскіх рублях, як і летась.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Як па Беларусі?

Старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Адпачынак у вёсцы" **Валерыя Кліцунова** пацвердзіла ў інтэрв'ю tut.by, што ў гэтым навагоднім сезоне гаспадарам сядзіб расіяне тэлефануюць больш рэдка, чым у мінулым годзе.

– Летась з нагоды Новага года ў гаспадароў сядзіб было па 20-30 званкоў ад расіян, прасілі нават у чаргу запісаць. У гэтым годзе проста ўсё больш спакойна, – расказала яна.

ЛІЧБА НУМАРА

**80%**

феерверкаў у свеце зроблена ў Кітаі

Па інфармацыі malpme.ru

Як атрымліваюцца агні розных колераў?

Фіялетавы – дзякуючы калію, жоўты – натрыю, блакітны – селену

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 18.12 | 24.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 880,00 | **10 950,00** |
| Еўра | 13 590,00 | **13 400,00** |
| Злоты | 3 215,75 | **3 140,28** |
| Літ | 3 928,79 | **3 879,68** |
| Расійскі рубель | 163,00 | **202,50** |
| Грыўня | 682,77 | **688,25** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.12** | | |
| Еўра | 13590/13920 | **16880/13665** |
| Долар ЗША | 10900/11150 | **13770/11145** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.12 | 23.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 54950 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29800 | **38600** |
| Селядзец, 1 кг | 34500 | **36400** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108000 | **108000** |
| Рыс, 0,9 кг | 10500 | **11700** |
| Грэчка, 0,8 кг | 11900 | **13000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **16650** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **12000** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **11500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 3300 | **4000** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 18500 | **24000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15500 | **17500** |
| Мандарыны, 1 кг | 16500 | **16500** |
| Памідоры, 1 кг | 23500 | **20000** |
| Агуркі, 1 кг | 27800 | **31000** |
| Перац, 1 кг | 28500 | **32500** |
| Вінаград, 1 кг | 20500 | **25000** |
| Бананы, 1 кг | 13900 | **18500** |
| Хурма, 1 кг | 20500 | **25000** |
| Яблыкі, 1 кг | 8900 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 16500 | **20500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **-** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **-** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **-** |
| Бульба, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **-** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |





● ЗДАРЭННІ

# З-за сякеры пайшоў на разборкі

**МЯДЗЕЛ. Жыхара вёскі Сідаравічы Занарацкага сельсавета сёлета судзілі за прычыненне лёгкіх цялесных пашкоджанняў. Атрымаў ён тры месяцы арышту. Прыцягваўся 48-гадовы вясковец таксама да адміністрацыйнага арышту – апошні раз у лістападзе.**




Фота howtobecome.ru

У вёсцы Сідаравічы падзеі развіваліся, як у сюжэце бандыцкага баевіка.

Аднак сумны досвед яго не навучыў. Цяпер у адносінах да мужчыны ўзбудзілі крымінальную справу за пагрозу забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў або знішчэнне маёмасці.

Пачалася гісторыя з таго, што да яго дамоў прыйшлі суседзі. Хацелі даведацца, ці браў мужчына ў іх сякеру. Таго дома не было: якраз адбываў пакаранне. А сын сякеры не знайшоў.

Бацька вярнуўся дадому. Сын 10 снежня расказаў яму пра наведванне суседзяў.

– Мужчына палічыў, што яго абвінавацілі ў крадзяжы. Выпіў, вырашыў ісці разбірацца і стаў тачыць нож, – распавёў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

Сын паспеў папярэдзіць суседзяў, каб тыя не адчынялі дзверы. Гаспадар дома і яго знаёмы з Вілейшчыны зачыніліся ў доме. Аднак вясковец выняў фанеру ў верандзе, пранік у дом. Стаў грукаць у дзверы, пагражаць расправай. Гаспадар спалохаўся, што мужчына выламае дзверы, і ўпусціў яго.

Той пачаў штурхацца з віляйчанінам, яны ўпалі. Нязваны госць апынуўся зверху і замахнуўся нажом.

Але гаспадар дома схапіў яго за руку. Разам са знаёмым яны ўтрымалі суседа да прыезду міліцыі.

Мужчына можа быць пакараны штрафам або папраўчымі работамі на тэрмін да аднаго года, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Праверылі Беларускую АЭС. Сістэмных заўваг не было

**АСТРАВЕЦ.** Праверка праходзіла ад 27 кастрычніка да 6 лістапада. Яе праводзілі Дзяржпрамнагляд, Дэпартамент па наглядзе па бяспечным вядзенні работ у прамысловасці МНС, Дзяржстандарт. У якасці кансультантаў было Федэральнае дзяржаўнае ўнітарнае прадпрыемства "Бяспека".

Сістэмных заўваг пасля нядаўняй комплекснай праверкі не заўважылі. Пра гэта паведаміла начальнік Дэпартамента па ядзернай і радыяцыйнай бяспецы МНС **Вольга Лугоўская**.

Заўвагі апісаны ў прадпісаннях. Прадпрыемству вызначылі тэрміны для выпраўлення недакладнасцяў. Яны павінны быць выкананыя да заканчэння першага квартала наступнага года.

Большая частка заўваг ужо выпраўленая.

**Паводле БелТА.**

● СТАНДАРТЫ

## Аштрафавалі, хто не выконваў Тэхнічны рэгламент па будаўніцтве

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел дзяржнагляду інспекцыі Дзяржстандарту цягам года праверыў суб'екты гаспадарання, якія вырабляюць і прадаюць будаўнічыя матэрыялы і вырабы. З 21 праверкі парушэнні знайшлі ў 20.

Па выніках забаранілі прадаваць прадукцыю ў поўным аб'ёме на пяці прадпрыемствах, склалі 25 пратаколаў аб адміністрацыйных парушэннях, далі штрафаў больш чым на 103 мільёны рублёў.

Характэрныя парушэнні для айчынных будматэрыялаў – няма дэкларацый, няпоўная маркіроўка, адхіленні па памерах, якасць паверхні. Для імпартных – няпоўная інфармацыя для спажыўца.

Тэхнічны рэгламент 2009/013/BY "Будынкі і пабудовы, будаўнічыя матэрыялы і вырабы. Бяспека" дзейнічае ад 21 жніўня 2012 года. Але і падчас сёлетніх праверак знайшлі вытворцаў і прадаўцоў, якія не мелі на тавар неабходных дакументаў.

Сярод іх без дэкларацыі адпаведнасці прадавалі:

1. ААТ "ПМК-188" Валожынскага раёна, што прадаюць бетонныя і растворныя сумесі.

2. Дошкі для падлогі ТАА "Арыён Вуд" у Маладзечне.

3. Налічнікі вілейская "Фабрыка дзвярэй "Лаза".

4. Зварныя арматурныя сеткі "Маладзечанскае прадпрыемства вытворча-тэхналагічнай камплектацыі".

Поручні ад "Чысць-Бау" Маладзечанскага раёна.

5. Дошкі для падлогі і абшыўка ад "Вілейскага доследнага лясгаса".

**Святлана ДЗЕРАВЯНКА, галоўны дзяржаўны інспектар аддзела Дзяржаўнага нагляду за стандартамі і сродкамі вымярэння Маладзечна.**

● ЗДАРЭННІ

### Ля Вязынкі на Вілейшчыне загінуў 25-гадовы кіроўца

**ВІЛЕЙКА.** У дзве гадзіны ночы 22 снежня непадалёк ад вёскі Вязынка адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, у якім загінуў чалавек.

25-гадовы кіроўца аўтамабіля "Ровер" пры абгоне не ўлічыў умовы надвор'я, няправільна выбраў хуткасць і не справіўся з кіраваннем.

У выніку аўтамабіль занесла. Машына з'ехала ў левы па ходзе руху кювет, стукнулася ў дрэва. Кіроўца загінуў. Ён не быў прышпілены рамянём бяспекі. На машыне былі летнія шыны.

**Паводле ДАІ Беларусі.**

### Кіроўца "Міцубісі" на летніх шынах загінуў у аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каля 20 гадзін 19 снежня кіроўца "Міцубісі" на вуліцы Віленскай урэзаўся ў раздзяляльны парапет.

55-гадовага мужчыну з траўмамі завезлі ў бальніцу, дзе ад пашкоджанняў ён памёр.

Пра гэта паведаміла інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ **Ірына Сапунова**.

На машыне загінулага спераду былі зімовыя шыны, а ззаду – летнія.

Гэта стала прычынай аварыі.

Па факце ДТЗ праводзяць праверку.

**"ЧіЗ", Сяргей ЗЯНЬКО.**

### На Вілейскім вадасховішчы шукаюць рыбака

**ВІЛЕЙКА.** Каля дзевяці гадзін вечара 22 снежня паступіла паведамленне, што тоне мужчына на Вілейскім вадасховішчы. Адбылося гэта каля вёскі Чыжэвічы.

Выратавальнікі абследавалі месца, адкуль былі чутныя крыкі пра дапамогу. Патанулага не знайшлі. Пошукі працягнуліся ў аўторак з раніцы.

Супрацоўнікі Вілейскай выратавальнай станцыі яшчэ раз настойліва раяць рыбакам, каб не выходзілі на лёд. Той вельмі тонкі.

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

### З пад'езда скралі ровар

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта шукае, хто скраў ровар.

Невядомы ў перыяд часу ад 15 гадзін 27 лістапада да 10 гадзін 28 лістапада пашкодзіў трос роварнага замка і скраў веласіпед з тамбура першага паверха пад'езда №4 дома №11 па вуліцы Касманаўтаў.

Ровар бела-чорнага колеру маркі GTX.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра гэтае здарэнне, паведаміць па тэлефоне **8(0176) 77-79-59** з 9 да 18 у рабочыя дні ў Следчы камітэт.

**Паводле паведамлення Маладзечанска райаддзела Следчага камітэта.**

● ЦЭНТР ГІГІЕНЫ

# Як зрабіць зіму бяспечнай і камфортнай

**З маразамі нашмат больш па медыцынскую дапамогу звяртаюцца з траўмамі рук і ног: вывіхамі, расцяжэннямі і пераломамі.**

Зімой варта вельмі ўважліва выбіраць адзенне і абутак. Часта менавіта высокія абцасы прыводзяць да траўматызму. Лепш выбіраць бяспеку і не рызыкаваць. Безумоўна, не абавязкова гуляць па цэнтры горада ў бурках.

Абутак пажадана насіць на плоскай падэшве. Лепш, калі яна рабрыстая, каб не слізгала. На нізкім шырокім абцасе. У галалёдзіцу варта хадзіць як мага марудней, нібы на маленькіх лыжах.

Сталым людзям, якія найчасцей падвяргаюцца траўматызму, варта прымацоўваць да падэшвы адмысловыя супрацьгалалёдныя накладкі, выкарыстоўваць для апоры кій.

Вучыце дзяцей падчас катання на лыжах ці каньках падаць, згрупіраваўшыся.

Калі падаеце, ніколі не выцягвайце руку наперад, каб захаваць раўнавагу! Пры падзенні мы робім гэта інстыктыўна, і на руку абвальваецца ўся маса цела. Навучыцеся падаць правільна.

Кіраўнікам арганізацый, у штаце якіх ёсць работнікі па ўборцы тэрыторый, вартаўнікі, неабходна арганізаваць своечасовую ўборку. Прыбіраць трэба да пачатку работы ўстановы: дарожкі, прыступкі ганка, пандусы. Трэба зняць ледзяныя і снежна-ледзяныя ўтварэнні, пасыпаць супрацьгалалёднай сумессю.

Будуць мець рацыю тыя нераўнадушныя грамадзяне, якія пакінуць адпаведны запіс пра неналежны стан прыступак ці прылеглай тэрыторыі. Кніга скаргаў і прапаноў ёсць у кожнай арганізацыі, установе і ларку, яе абавязаныя даць па першым патрабаванні.

За несвоечасовую ачыстку ад снегу і лёду прадугледжаны штраф.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў народнага спажывання Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**





Фота Алены ПАРАХНІ

Удзельнікі клуба маладых адкрывальнікаў СШ №5 разам з дзецьмі з цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі прымушаюць келіхі спяваць.

ШКОЛА

# Дзеці вывучаюць свет праз доследы

## Як стаць на шарык, каб ён не лопнуў, чаму крухмал вадкі і цвёрды адначасова – шукаюць адказы маладыя навукоўцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні святаў удзельнікі клуба маладых адкрывальнікаў (КМА) СШ 5 рабілі доследы разам з дзецьмі з цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.**

– Мы вельмі хваляваліся, як будзем паказваць доследы, трэба ж было тлумачыць, што адбываецца, як і чаму, – распавядае настаўніца СШ№5 і адначасова выкладчыца ў клубе **Алена Парахня**. – Але прайшло добра. Дзеці з цэнтра глядзелі на гэта, як на шоу. Потым самі спрабавалі рабіць. І ў іх усё атрымоўвалася! Яны былі такія радасныя, пляскалі адзін аднаму, падтрымлівалі. Некаторыя спрабавалі самі тлумачыць прынцыпы, на якіх доследы заснаваны. І добра тлумачылі! Дзеці вельмі цікавыя. Нашы ж вучні былі задаволеныя, што выступілі ў ролі эксперыментатараў. Дослед цудоўны!

**Маладзечанская СШ №5 – адна з дзвюх школ у рэгіёне, дзе існуе клуб маладых адкрывальнікаў. Яшчэ адзін клуб працуе ў Хажове.**

Калі ўдзельнікі клуба маладых адкрывальнікаў выбіралі, з якімі доследамі ісці да дзяцей, стаўку рабілі на відовішчнасць. Пяцёра вучняў размеркавалі паміж сабой, хто які паказвае і тлумачыць. Падчас сустрэчы, калі ў гэтым ўзнікалі складанасці, дапамагала настаўніца фізікі і таксама выкладчыца ў клубе **Людміла Гумянюк**.

### Доследы з сурвэткай, шарам і келіхам

Як заўважае Алена Парахня, для доследаў часам дастаткова самай простай рэчы.

– Эксперыменты не патрабуюць дарагога абсталявання, – кажа яна. – Бутэлькі, саломка, шары. Штосьці простае прыношу з дома. Вечна, як на КМА, дык з кладоўкі ўсё павыцягваю. Дзецям эксперыменты падабаюцца. Потым прыходзяць дамоў і паказваюць бацькам, братам ды сёстрам.

**Як заўважае Алена Парахня, у клубе могуць займацца дзеці любога ўзросту. І старшакласнікі таксама. Аднак самыя актыўныя – 5-я, 6-я і 7-я класы. Доследы можна нават у праграму дадаваць, як такі, калі робяць цукеркавую ДНК.**

Да прыкладу, сурвэткі. Дзеці разбіраліся, чаму сурвэтка застаецца сухой пад вадой.

І хлопчык з цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання сказаў, як так атрымліваецца. Бо там ёсць паветра.

Паказалі дослед з келіхам.

– Мы запыталіся ў дзетак, ці спяваюць келіхі? Яны адказалі, што не. А мы ім кажам: у нас спяваюць. І мы пальчык мачылі і вадзілі па крузе. Атрымліваецца гук, – усміхаецца спадарыня Алена.

Далей высвятлялі, як стаць на шарык, каб ён не лопнуў.

– На адзін станеш – лопне. А калі размеркаваць ціск па большай плоскасці, на два шары, то не лопне.

Альбо яшчэ адзін з шарам. Пратыкалі яго так, каб шар не лопнуў.

### Самы відовішчны дослед

За тры гады існавання клуба доследаў ужо рабілі столькі, што цяпер узнікаюць складанасці з выдумкай новых. Добра, штогод удзельнікі клуба збіраюцца на агульны форум, дзе абмяркоўваюць сваю працу і досвед. Тут яны пераймаюць ідэі адзін у аднаго.

Сёлета, да прыкладу, клубу паралі пачаць дзяліцца сваімі эксперыментамі з іншымі. Каб дзеці самі прэзентавалі сваю працу і навуку. Вось і акцыя з дзецьмі з цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі нарадзілася пасля такой прапановы.

– Памятаю, прыехала з аднаго трэнінга, тады сустракала дачка, – прыгадвае Алена Мікалаеўна, – я нават сумкі не распакоўвала, адразу ёй: "Саша, ідзі сюды". І павяла паказваць дослед. Крухмал у пэўнай канцэнтрацыі можа быць цвёрдым і вадкім целам адначасова. Гэта называецца "ньютанаўская вадкасць". Крухмал разводзяць з вадой да кансістэнцыі густой смятаны. Калі ў міску палец апусціш, ён патоне. Калі кулаком стукнеш – як аб сцяну.

Тлумачэнне гэтаму вельмі простае. Крухмал – палімер. Ён складаецца з доўгіх малекул. Калі ў вадзе яго размяшаць, малекулы пераблытваюцца. Калі мы штосьці павольна апускаем, яны расходзяцца. Калі рэзка – не паспяваюць разысціся.

### Настаўнікі і вучні ў клубе на роўных

Ідэя стварыць такія клубы нарадзілася ў Цэнтры Каперніка ў Варшаве. Праект патрэбны для пашырэння асветы і каб дзецям было не сумна вывучаць прыродазнаўчыя навукі.

– У нас на занятках дослед не можа не атрымацца, – кажа Алена Парахня. – Калі не атрымалася так, як задумвалася, гэта не значыць, што не атрымалася. Трэба падумаць, як і што змяніць, чаму так адбылося. Трэба аналіз. Мы ўсё дазваляем і раім спрабаваць штосьці мяняць, рабіць па-рознаму. У клубе мы дзецям не настаўнікі. Звычайнаму настаўніку складана сказаць, што ён чагосьці не ведае. А мы гаворым: "Я не ведаю, давай разам падумаем, паспрабуем, пашукаем у інтэрнэце". Галоўнае, паставіць пытанне. А як дзеці знойдуць адказ: ці разам з намі, ці самі – не важна. Наша задача – абудзіць цікаўнасць.

Для чаго гэта трэба? Каб дзеці самі даходзілі да фізічных законаў. Фізіка – навука сухая. А калі фізіку, біялогію, хімію вывучаць праз эксперыменты, навука ажывае.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

КОНКУРСЫ

# Будучыя медыкі перамаглі ў інтэлектуальнай гульні

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінальная гульня міні-праекта "Зямля пад белымі крыламі" паміж камандамі медыцынскага і політэхнічнага каледжаў прайшла ў бібліятэцы "Верасок" 17 снежня.**

Міні-праект, арганізаваны цэнтральнай раённай бібліятэкай імя Максіма Багдановіча, быў прысвечаны Году гасціннасці і стартаваў у пачатку верасня. За гэты час у двух маладзечанскіх каледжах прайшло некалькі адборачных тураў, у выніку якіх вызначыліся фіналісты.

### Галоўнае, добрая падрыхтоўка

Яшчэ перад пачаткам гульні прыцягнуў увагу калектыў у яркіх народных строях з шасці дзяўчат і аднаго хлопца. Гэта былі прадстаўнікі медыцынскага каледжа, якія дзякуючы добрай падрыхтоўцы ў выніку сталі пераможцамі.

– Да конкурсу мы рыхтаваліся сур'ёзна: чыталі кнігі, выкарыстоўвалі электронныя крыніцы інфармацыі, праводзілі розныя віктарыны. Дарэчы, капітан нашай каманды "Маладосць" **Дзяніс Хвалько** ў адной з гульняў паказаў найлепшы вынік – 73 правільныя адказы на 85 пытанняў, – расказвае педагог філасофіі медыцынскага каледжа **Ірына Апаленіс**.

Па ўласнай ініцыятыве каманда падрыхтавала эмблему і дэвіз, якім сталі словы "Маладосць не вечна, пакінь свой след сардэчна". Як патлумачылі навучэнцы, маладосць, быццам кароткае імгненне, напоўненае яскравасцю, энергіяй і жаданнем рабіць нешта незвычайнае. Таму за гэты час кожны павінен паспець пакінуць пасля сябе добры след, які надоўга застанецца не толькі ў памяці, але і ў сэрцы.

– У нашым каледжы такі прадмет, як гісторыя, не вывучаецца. Але добра, што праводзяцца гульні, дзе мы можам паказаць сябе з лепшага боку і даведацца пра новае, – лічыць будучая фельчарка **Яўгенія Ярмішкіна**.

### Якая вобласць краіны самая вялікая па плошчы?

Шматлікія пытанні інтэлектуальнай гульні патрабавалі ад удзельнікаў рознабаковых ведаў у галіне беларускай гісторыі, культуры, геаграфіі, літаратуры. Адказаць, дзе знаходзіліся рэзідэнцыі князёў ВКЛ, назваць заказнікі і запаведнікі, пазнаць архітэктурныя помнікі, славутых землякоў і літаратурных герояў, скласці карту нашай краіны – вось толькі некалькі з заданняў.

Задаваць пытанні вядучай дапамагалі дзве калярытныя кабеты, у ролі якіх былі супрацоўніцы бібліятэкі **Ала Цяляк** і **Раіса Давідовіч** (яна адначасова аўтар сцэнарыя). Жанчыны прыйшлі не з пустымі рукамі, а "прынеслі" з сабою кубел, бельчык, дзяжу, балею і прапанавалі маладым людзям здагадацца, як жа выкарыстоўвалі гэтыя рэчы нашы продкі.

**Наогул, многія пытанні былі пазнавальныя. Напрыклад, я даведалася, што ў Віцебскай вобласці маленькія клёцкі з мясам называюцца "душы".**

Гледачы, у сваю чаргу, маглі не толькі падбадзёрыць сяброў сваёй падтрымкай, але і дапамагчы атрымаць перамогу. Самай актыўнай з гледачоў была навучэнка медыцынскага каледжа **Лізавета Борыс**, якая правільна адказала амаль на ўсе пытанні і прынесла сваёй камандзе дадатковыя балы.

### Беларусь багатая на таленты

А яшчэ аказалася, што сярод будучых медыкаў і будаўнікоў шмат таленавітых асоб. Цудоўны голас прадэманстраваў навучэнец політэхнічнага каледжа **Аляксей Бурачонак**. Члены журы нават падпявалі яму падчас выканання вядомай песні "Каля чырвонага касцёла". Не саступілі ў творчым конкурсе і навучэнкі медыцынскага каледжа **Яўгенія Ярмішкіна** і **Святлана Снітко**. Але гэта і не дзіўна – дзяўчаты з маленства займаюцца спевамі, неаднойчы прымалі ўдзел у раённых канцэртах і конкурсах. Трохгадовую Святлану на сцэну прывяла бабуля, якая сама спявала ў фальклорным ансамблі.

Напрыканцы самыя творчыя прадстаўнікі абедзвюх камандаў пусціліся ў скокі. "Полька-Янка" падняла настрой і гледачам, і журы.

Па словах удзельнікаў, самым складаным на гульні было размаўляць па-беларуску. А журы заўважыла, што найбольшую цяжкасць выклікалі пытанні, звязаныя з літаратурай. Падводзячы вынікі конкурсу, дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі **Наталля Івашынка** запрасіла ўсіх часцей наведваць бібліятэку і больш чытаць.

**Юлія СТРЫГА,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**





ТРАДЫЦЫІ

# Хлеб для першай касманаўткі

## Як Валянціна Церашкова ўпадабала боханы з Чарэмшыцаў

**МЯДЗЕЛ. Цікавіцеся, як даўней пяклі хлеб? То вам да Галіны Каўрус, жыхаркі вёскі Чарэмшыцы на Мядзельшчыне.**

Спечаныя ёй па старым рэцэпце боханы ўпрыгожвалі не толькі сямейны стол, а і калгасныя і раённыя святы. А яшчэ ўпадабалі чарэмшыцкі хлеб першая касманаўтка **Валянціна Церашкова** і оперная спявачка **Алена Абразцова**.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Галіна Каўрус зберагае на Мядзельшчыне традыцыі хлебапячэння.

### Хлебам частавалі касманаўтаў

Неяк у пачатку 80-х Валянціна Церашкова адпачывала ў санаторыі "Сосны" ля Мядзела. Захацелася ёй вясковага хлеба пакаштаваць. Прывезлі да Галіны Каўрус:

– Так і пайшло знаёмства. Церашкова два разы прыязджала. Аднойчы разам з ёй **Алена Абразцова** была. Тая ля дома нават паспявала.

**Галіна Каўрус ездзіла ў госці да першай у свеце жанчыны-касманаўткі ў Зорны гарадок. Вядома, туды хлеб прывезла. Ім Церашкова частавала сяброў-касманаўтаў.**

Можна выказаць здагадку, чаму Валянціне Церашковай так хацелася з'есці вясковага хлеба. Яе бацькі родам з Беларусі. Прыгадвала Валянціна, што мама спявала калыханкі на беларускай мове. У адным з інтэрв'ю расказвала: "Я пайшла ў першы клас у Яраслаўлі пасля вайны і казала не "открой дверь", а "адчыні".

### На хлеб скублі верас

Галіна навучылася пячы хлеб дома, калі дапамагала маме. Прыгадвае, як было цяжка пасля вайны:

– Не было з чаго хлеб пячы. Верас скублі, дадавалі, бо мукі не хапала. І як прыйшлі ў калгас рабіць, таксама з чаго было той хлеб пячы?! Сто грамаў жыта на працадзень заробім – і ўсё. Хто меў капейку, ездзіў у Маладэчна за хлебам. А калі калгасы пачалі развівацца, мукі ўдосталь з'явілася. У Чарэмшыцах хлеб усе пяклі.

Але той час даўно мінуў.

– Цяпер то не пякуць. Можа, дзежачкі парассыпаліся. Ды і людзі пастарэлі, – разважае Галіна. – А мне хочацца пячы свой хлеб: так прывыкла.

Ды і наша гераіня ўжо 86 год мае. Апошнім часам толькі да гадавых святаў хлеб пячэ. Сёлета зусім не пякла: здароўе падводзіць. Але спадзяецца, што яшчэ "памаленьку, сяды-тады спячэ":

**– Усё для гэтага ў мяне ёсць. Так хочацца ў царкву ў Чысты чацвер перад Вялікаднем свой хлеб прынесці. Такі закон даўні: і з мамай насіла, і сама.**

Яшчэ хацела б паслаць бохан Леаніду Якубовічу з "Поля цудаў": так уразіў яе адзін момант з перадачы. Якубовічу пекар прывёз у падарунак шыкоўныя пірагі, а той папрасіў: "Каб ты мне яшчэ даўнейшага хлеба прывёз, хоць скарыначку панюхаць".

### "Шчыры натуральны хлеб"

Прытрымліваецца Галіна Барысаўна старога рэцэпта:

– Як запомніла, па-дамашняму. І пры партызанах так пёкся, і потым. Старадаўняя кісля трымаецца.

Хлеб у яе без дражджэй. Проста бярэ жытнюю муку з вадой.

– Усё на вока, – прызнаецца. – Перш раўгеню раблю. Мучыцу запарваю, лью ў дзяжу. Раней жылі з раўгенькі: елі бульбачку ці кашу з гэтай жыжкай. А на гушчы рашчынялі хлеб. Укісае суткі ці двое – у залежнасці, якое цяпло. Соль укіну. Замяшу. Усярэдзіну кмен, кроп кладу. І зверху кменам хлеб пасыпаю. Аеру падкладаю ўніз – надта пахне. У печ саджаю, паражываю: каб упёкся, каб не сыры быў ці не падгарэў. Атрымліваецца шчыры натуральны аржаны хлеб – як раней, без ніякіх дадаткаў.

**– Што трэба, каб смачны хлеб выйшаў?**

– Каб добра ўкіс, каб кісля свая ў ім была. Сакрэт тут невялікі. Трэба мець сваё паняцце – і ўсё.

### "Станеш кроіць – водар на увесь дом"

Звычайна жанчына пякла сем боханаў.

– А булачкі па тры кілі – формачкі такія парobленыя. Хлеб і дзве нядзелькі ляжыць – ніякай сівізны. Трохі прычарсцвее. Але чэрствы ён яшчэ больш смачны і, кажуць, карысны.

**– А чым ад крамнага ваш хлеб адрозніваецца?**

– Кісля смачная. Ды водар які! Пяку хлеб – на вуліцы пахне. Дым жа праз комін ідзе. Станеш кроіць – водар на увесь дом. Ніхто мой хлеб не ганіў, усім ён падабаўся. Як еду у бальніцу – заўсёды сухарыкі ў мяне пасушаныя. Пачастую – хто з бабулек ранейшыя часы ўспомніць.

**– Чулі, што мода хлеб пячы вяртаецца. Спецыяльныя прыстасаванні – хлебапечкі папулярныя. Сабе такую не хочаце?**

– Пэўна, мой рэцэпт туды не ідзе. Я паслухала: там ужо напісана, колькі чаго трэба. А кіслі, раўгенькі – няма. Мяне частавалі такім хлебам. Ён смачны – але без кіслі, салодкі як блін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Раўгеня – кісла-салодкая рэдкая мучная страва. Жытнюю муку размешвалі халоднай вадой, ставілі ў печ парыцца і саладжаць. Потым вылівалі ў хлебную дзежку, каб укісала. Калі раўгеня ўкісне (кажуць яшчэ "паходзіць"), яе ядуць. Вядомая на паўночным захадзе Беларусі. У Мядзельскім, Браслаўскім раёнах раўгеню рабілі зусім рэдкай і пілі як квас. Часам на раўгені рашчынялі хлеб.
**Паводле rv-blr.com**

МАСТАЦТВА

# Назваць карціны дапамаглі жыхары рэгіёна і Адам Мальдзіс

**АСТРАВЕЦ. Мастак-жывапісец Алег Драбышэўскі з Мінска выбраў назвы для карцін, якія ён прысвяціў малой радзіме – Астравеччыне.**

У пачатку лістапада ў "Рэгіянальнай газеце" і на сайце змясцілі выявы дзвюх карцін і прапанавалі дасылаць назвы да твораў.

Чытачы прыходзілі ў рэдакцыю, пакідалі каментары на сайце, пісалі на электронную пошту мастака, тэлефанавалі яму. Прапановы выказвалі актыўна – агулам было каля пяцідзесяці зваротаў. Варыянты прапаноўвалі з Мядзела, Вілейкі, Ашмянаў, Солаў, іншых мясцін. Натуральна, найбольш – з Астравеччыны.

### "Водар зімовай Лошы" і "Зямля цудоўная гудаў"

Першую карціну творца назваў "Водар зімовай Лошы".

Адзін з чытачоў прапанаваў варыянт "Водар раніцы". Неаднойчы прыгадвалі рэчку Лошу. Напрыклад, быў такі варыянт – "Сляды на Лошы". Так што і "Лоша", і "водар" занялі сваё месца ў назве.

Другую карціну шмат хто з чытачоў параўноўваў са Швейцарыяй. Але ўсё ж у назве абышлося без згадак аб альпійскай краіне. Твор атрымаў назву "Зямля цудоўная гудаў".

Тое, што ў назве абавязкова будзе слова "зямля", – Алег Драбышэўскі вырашыў даўно. "Цудоўная" – таму што непадалёку, у касцёле ў мястэчку Гудагай, знаходзіцца цудадзейны абраз. Ды ўвогуле краявіды тут прыгожыя!

Дадаць узгадку пра "гудаў" падказаў вядомы ўраджэнец Астравеччыны, літаратуразнаўца, гісторык, пісьменнік і сталы чытач "РГ" **Адам Мальдзіс**. Бо і назва Гудагай ад гэтага пайшла.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Фота карцін глядзіце на сайце**




**Даведка "РГ".** Гуды – яшчэ ў 16 стагоддзі адзін са стваральнікаў літоўскага пісьменства Мікалай Даўкша выкарыстоўваў гэты тэрмін для пазначэння славянамоўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая традыцыя працягнулася і ў 17-18 стагоддзях.
**Паводле гісторыка Алега Дзярновіча.**

ІМПРЭЗЫ

# Адбудзецца дабрачынны баль у сядзібе Агінскага

**СМАРГОНЬ. Ён пройдзе 17 студзеня а шостай гадзіне вечара ў Залессі.**

Падчас балю вы навучыцеся танцаваць, як у эпоху Міхала Клеафаса Агінскага, бальнаму цырыманіялу, этыкету, правільна трымаць веер, салонным гульням. Вас чакаюць музычныя сюрпрызы і дабрачынны аўкцыён.

### Для жанчын – вячэрняя сукенка, для мужчын – фрак

На баль можна трапіць, калі прытрымлівацца дрэс-кода. Для дам – гэта вячэрняя сукенка, абавязкова доўгая, альбо сукенка XIX стагоддзя. Для мужчын – фрак, смокінг або касцюм, белая сарочка, бабачка або шыйная хусцінка.

За сродкі, атрыманыя ад білетаў і аўкцыёна, набудуць экспанаты для музея-сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага, пойдуць на іншыя дабрачынныя мэты.

Цана білета – 300 тысяч рублёў.

Набыць білеты можна па адрасе: Смаргонь, вуліца Кутузава, 23 або ў музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі.

**Паводле інфармацыі фонду "Паўночныя Афіны".**

**– Што перанялі ад бацькоў?**

– Вельмі люблю вандраваць, але не хапае часу. Забыла, калі апошні раз адпачывала. Увесь час працую. Памятаю, у дзяцінстве мы заўсёды ехалі ў вёску на Каляды. Мама апранала нейкія касцюмы, мы каля яе скакалі.

Дарэчы, у нас усе спяваюць. Усе бабулі, мама. Я, дарэчы, таксама гучна гавару. З дзяцінства песень шмат ведаю, прыпевак. І пахабных, і добрых – усялякіх. Бо я ў гэтым жыла.

**– Калі зразумелі, што вам блізкі тэатр?**

– У восьмым класе ўпершыню іграла ў спектаклі Паўлінку. Тады яшчэ пісала сцэнары вечароў гумару. Хадзіла і на танцы, і ў драмгурток. Клаўнадай займалася. Жартаваць я любіла заўсёды!

## У метро: "Дзядзечка, прабі талончык"

**– Ці карысталіся акцёрскімі навыкамі, каб разыграць кагосьці?**

– Вядома! Па тэлефоне, да прыкладу. Пазваніла: "Добры дзень! Вы выйгралі прыз у МТСе. Калі ласка, прыходзьце! Мы вас чакаем! Парадны касцюм, усё як мае быць". Чалавек паверыў. І гэта было не першае красавіка. Часта жартую, галасы мяняю.

**– Вы разыгрываеце. А вас?**

– І мяне! На рэпетыцыю раз паклікалі. Я прыйшла. І на сцэне. Першага красавіка заўсёды неяк падколваем адзін аднаго. Памятаю, яшчэ калі ў інстытуце вучыліся, паспрачаліся з **Генкам Пшэнікам** і **Танькай Юрык**. Яна зараз у Брэсцкім тэатры, а Генка разам са мной у гімназіі-каледжы мастацтваў працуе. Апрануліся смешна, заходзілі ў метро і казалі: "Дзядзечка, прабі талончык".

**– Драму ці камедыю абіраеце ў тэатры?**

– Цяпер мне хочацца драмы. Але камедыі ў маім тэатральным жыцці ўсё ж такі больш. Я не пра такія ролі, якія выклікаюць у гледачоў павярхоўны рогат. Усё адно ў жанчынах, якія я іграю, ёсць свой лёс. Я не люблю простыя камедыя і штосьці звышглабальнае. Мне падабаецца, калі спектакль блізкі да жыцця.

## "Буду нармальнай бабуляй"

**– Як вы прымушаеце сябе выйсці на сцэну, калі ў зале школьнікі з чыпсамі?**

– На "Вечар" часта дзяцей зганяюць, бо па школьнай праграме. Хаця я лічу, што ранавата. Па-першае, тэма старасці і адзіноцтва ім яшчэ да ліхтара, таму яны сябе і паводзяць агідна. Іграеш. Вядома, непрыемна. Калі чыпсы ядуць, калі фанцікі разварочваюць, калі нумаркі падаюць. Пастаянна! Адзін раз мы нават не хацелі выходзіць на паклон. Выйшлі, бо ёсць дзеці, якія ў гэтым не вінаватыя. Іграем тады для тых 10-і, 20-і, якім гэта падабаецца. А часам вельмі добрыя дзеці. Вось у мяне ў каледжы мастацтваў тры курсы. Яны ўвесь час плачуць на "Вечарах". Так кранальна. І злуюцца, калі і ім перашкаджаюць.

**– Да тэмы старасці. Як да яе ставіцеся?**

– Пакуль не баюся. Але і пакуль не задумваюся. Бо ў мяне такі стан душы, калі хочацца яшчэ шмат чаго зрабіць, паспець. Я адчуваю сябе камфортна ў сваім узросце. Хаця памятаю, калі была маленькай, увесь час баялася памерці. Мне падаецца, гэта ва ўсіх дзецях ёсць. Плакаць пачынаеш. Вось гэта ад мяне, вядома, сышло. Я такога сабе не дазваляю.

Калі іграла ролю Ганны, увесь час узгадвала сваіх бабуляў. Як яны чакалі, калі мы прыедзем да іх. І калі я па спектаклю гляджу ў акенца, мне там трэба заплакаць, заўсёды думаю пра сваіх бабуляў. Пра дом, куды я маленькай прыязджала на канікулы. І раку. Трэба ў сабе выклікаць эмоцыі, каб яны былі бачныя ў вачах.

**– Не страшна бачыць сябе ў люстэрку ў старэчым грыме?**

– Думаю, недзе такой я і буду. Нічога, я сабе спадабалася, у прынцыпе. Нармальная бабуля! Вельмі падобная на сваю па бацькавай лініі. Як да спектакля загрымуемся, дык ідзём, рагочам. Бо яшчэ калі які перл выдасі, а ты ў гэтай хустцы, валёнках. Смешна, бо неадпаведнасць поўная.

## Пакуль ёсць агонь, навошта сыходзіць?

**– Ці шкадавалі вы калі-небудзь, што столькі гадоў прысвяцілі аднаму тэатру?**

– Не, я ніколі не сыду з гэтага тэатра. Не таму, што дамасед ці баюся пятую кропку куды-небудзь зрушыць. Вядома, не ўсё ў тэатры заўсёды радуе. Але пакуль унутры ёсць агонь і ўсё ў парадку з унутраным станам, навошта сыходзіць?

Прывабны дарагі касцюм не зможа замяніць гледачу акцёра. Публіка спачатку глядзіць на адзежу, а потым пачынае сачыць за тым, як чалавек гаворыць, што ён робіць, як рухаецца, як рэагуе.

**– На якую ролю ні за што б не пагадзіліся?**

– Я б ніколі не распранулася на сцэне. Нават за вельмі вялікія грошы. Я ўвогуле не люблю на сцэне пашляціны.

**– Як ставіцеся да сучасных, авангардных накірункаў у тэатры?**

– Авангард авангарду розніца. Ёсць вельмі цікавыя падачы тэксту, спалучэнні музыкі, нейкія эксперыменты, якія здзіўляюць. Чаму б і не? Я нармальна да гэтага стаўлюся. А калі з класікі робяць порна – я супраць. І не лічу гэта авангардам.

**– Ці даводзілася збягаць з тэатра і грукаць дзвярыма?**

– Ой, шмат разоў! Мне здаецца, у нас тут часта дзвярыма грукаюць. Проста часам настолькі назапашваецца стомленасць, што ёй трэба выйсце. Час цяпер такі. Лёгкасці не хапае. Бывае, ускіпіш. Праз паўгадзіны супакоішся, думаеш: "Што там у мяне ў тэатры? Ах, спектакль заўтра, добра".

**– Ці плакалі ў тэатры ці з-за тэатра?**

– Я ўвогуле стала сентыментальным чалавекам. Фільмы гляджу – плачу. Бачу ў жыцці кранальныя гісторыі – плачу. Я эмацыйны чалавек. Я і развесяліцца магу лёгка, і заплакаць. Увогуле слёзы блізка стаяць.

**– Слёзы – гэта слабасць ці моц?**

– Ні ў якім разе не слабасць. Заплакаць і паспачуваць камусьці – трэба. Ёсць моманты, калі варта сябе стрымліваць. Але не ў выпадку, калі праяўляеш свае добрыя пачуцці. Зусім нядаўна быў выпадак, мы паехалі ў Брэсцкую крэпасць. Толькі ўвайшла, пачула першыя словы, што там гучаць, і пачала плакаць. Добра, калі чалавек адэкватна рэагуе на нейкія сітуацыі. Я не кажу пра істэрыкі.

## Ніколі не хацела сыграць Джульету

**– Якую ролю хацелі б сыграць, але яшчэ не сыгралі?**

– Не важна якую. Добрую! Каб яна была нечаканай для мяне, для гледача. Так, мне працай працаваць у камедыйным жанры. Хаця ёсць спектаклі, якія не камедыйныя, але мне вельмі дарагія. Як "Вечар". Заўсёды яго ўзгадваю, бо мне падаецца, ён быў новай прыступкай у маім жыцці.

**За ролю Ганны ў "Вечары" Алена Рахмангулава атрымала званне "Майстра сцэны".**

Я б хацела здзівіць і калег сваіх. Даводзіцца чуць часам: "Ой, на штампах выехала зноў". Але ж ад сябе ўсё роўна не збяжыш.

А якую дакладна? Раней у мяне былі мары, аднак я ніколі не хацела сыграць Джульету. Ні-ко-лі!

**– Якія ролі вам даспадобы?**

– Люблю іграць тыя, дзе ёсць жаночы лёс, гісторыя, перамены настрою. Тое, што ўласціва мне ў жыцці. Каб былі і ноткі гумару, і ў той самы час унутраныя перажыванні, такі трагіфарс. Люблю насычаныя ролі. І каб пластыка была. І каб спяваць і рухацца.

А часам роля не падабаецца. Дадуць табе тэкст, чытаеш, а потым пачынаеш рэпеціраваць, капацца і думаеш: "Вой, які цуд! Мабыць, гэта атрымаецца".

**Прэм'ерны спектакль "Вакзал на траіх", у якім актрыса выконвае галоўную ролю, якраз адносіцца да трагіфарсу. Рэжысёр Юры Вута спецыяльна падбіраў п'есу пад Алену Рахмангулаву. Гэтым спектаклем актрыса адзначае сваё 45-годдзе.**

**– Як ставіцеся да ролі Снягурачкі пад Новы год?**

– Мы з **Сашам Пашкевічам** былі Снягурачкай і Дзедам Марозам. Не падабаецца. Для мяне вялікі стрэс. Не скажу, што гэта не творчасць, але гэта крыху іншае. Калі акцёр прывыкае працаваць на сцэне, калі сафіты і ты не бачыш гледача, то потым такі блізкі кантакт з людзьмі напружвае. Для мяне ён не ў задавальненне. А для дзяцей працаваць у казках і ранейшніках я люблю. Хаця працаваць для іх складаней, бо не падманеш!

**– А выступіць на дні народзінаў у сяброў?**

– Цудоўна! Нядаўна ў мужа сяброўкі **Люды Рошчынай** юбілей быў. Цыганамі заводзілі, песні спявалі, весяліліся! Я лічу, што гэта нармальна. Але тут не ідзе гаворка пра халтуры. Халтуры для артыста – непрымальна. Ты мусіш несці сваё званне. Мне здаецца, што ў нас у тэатры няма халтуршчыкаў. Клоўнам у дрэнным сэнсе не хочацца быць. А ў добрым – чаму не? Весяліць людзей складана. Прымусіць чалавека заплакаць працай, чым прымусіць смяяцца.

**– Што б вы пажадалі чытачам?**

– Усміхацца. Калі ў мяне запыталіся, як назваць юбілейны творчы вечар, я сказала: хачу, каб людзі па жыцці ўсміхаліся. Каб была лёгкасць і больш дабрыні адзін да аднаго. Жадаю менш крыўдзіць і менш крыўдзіцца. Калі ўнутры будзе добры настрой, клопаты пададуцца меншымі. І праблемы хутчэй ператворацца ў пыл.

**Даведка "РГ". Алена Рахмангулава** нарадзілася 27 снежня 1969 года ў Баранавічах. Вучылася ў школе №18. Скончыла Мінскі інстытут культуры. Ад 1991 года працуе ў Мінскім абласным драматычным тэатры.



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo



Фота забяспечана Аленай РАХМАНГУЛАВАЙ.

Алена (справа) разам з сястрой Аксанай. Першы клас.



Фота забяспечана Аленай РАХМАНГУЛАВАЙ.

У 10-м класе СШ №18 Баранавічаў.



Фота Настассі РОЎДЫ.

У спектаклі "Вакзал на траіх".



Фота Настассі РОЎДЫ.

У спектаклі "Афінскія вечары".








Маладзечанская каманда па футболе пад кіраўніцтвам Аляксандра Гармазы (крайні справа) і яго памочніка Віталя Казяка (крайні злева).

ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# За 10 год каманда была і трэцяй, і шаснаццатай

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы футбольны клуб сёлета выступіў у чэмпіянаце другой лігі дзясяты раз. Табліца ў дадзеным артыкуле паказвае вынікі каманды за гэтыя гады.**

Відавочна, што прайшоўшыя сезоны можна падзяліць на тры перыяды. Сумнымі, нецікавымі па дасягненнях былі і пачатковы перыяд, і заключны таксама. А вось паміж імі, на працягу 2008-2011 гадоў, балельшчыкі атрымалі сапраўдны прыток эмоцый.

Тады каманду ўзначальваў самы аўтарытэтны мясцовы спецыяліст **Аляксандр Гармаза**, які мае значны досвед працы як з юнакамі ў спартыўнай школе, так і з дарослымі калектывамі.

Спачатку занялі восьмае месца, і яно было прыступкай да наступных поспехаў. Сезон 2009 года завяршылі на прызавым трэцім месцы! Потым яшчэ два гады запар на роўных змагаліся з усімі моцнымі сапернікамі і фінішавалі на чацвертых месцах.

Важна прыгадаць лепшых футбалістаў каманды ў тыя сезоны. Гэта людзі, якія ў свой час прайшлі нават вышэйшую лігу: паўабаронцы **Сяргей Дараховіч, Віталь Макрыцкі, Дзмітры Вышынскі,** абаронца **Сяргей Дрозд**. Гэта снайперы, якія забівалі каля дваццаці мячоў за сезон: **Сяргей Космач, Аляксандр Працкевіч**, той жа Дзмітры Вышынскі. Гэта юнакі, якія, атрымаўшы належную загартоўку, перайшлі на больш высокі ўзровень, у каманды першай лігі: паўабаронца **Ігар Нарожнік**, варатар **Вячаслаў Камінскі**, нападаючы **Сяргей Корсак.**

## Што маем і чаго чакаць

У Маладзечне выдатныя футбольныя традыцыі. Наша каманда выйгравала чэмпіянат БССР у 1963 годзе і ў 1991-м, станавілася ўладальніцай Кубка СССР сярод калектываў фізкультуры таксама ў 1991 годзе. Нарэшце заняла высокае чацвертае месца ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі ў 1995 годзе.

У Маладзечне выдатны футбольны стадыён. Асноўная рэканструкцыя тут была праведзеная ў дзевяностыя гады. Апошнім жа часам пэўныя сродкі ў наш стадыён уклала рэспубліканская федэрацыя футбола для таго, каб два-тры тыдні на год выкарыстоўваць яго для правядзення афіцыйных і таварыскіх сустрэч з удзелам юнацкіх зборных краіны.

У Маладзечне выдатная футбольная школа. Яе выпускнікамі былі прадстаўнікі нацыянальнай зборнай **Уладзімір Макоўскі, Уладзімір Карыцька, Андрэй Мілеўскі**. Яшчэ некалькі гульцоў абараняли колеры беларускай моладзевай зборнай. З выхаванцаў школы, якія ў розны час выступалі на ўзроўні вышэйшай лігі, можна скласці два моцныя саставы. І ўрэшце: з выхаванцаў школы апошніх выпускаў можна скласці моцны састаў для выступлення на ўзроўні другой лігі.

Студзень – гэта месяц, калі прымаюцца рашэнні на ўвесь новы футбольны год. Менавіта ў студзені складваецца стратэгія па фінансах клуба і камплектаванні саставу.

Няма ніякай праблемы, каб укамплектаваць састаў добра падрыхтаванымі маладымі футбалістамі і некаторымі дасведчанымі "дзядзькамі" на дапамогу.

Праблемай маладзечанскага футбола ўсе гэтыя дзесяць гадоў існавання ў другой лізе быў недахоп грашовых сродкаў. Часта фінансаванне аказвалася зусім мізэрным.

Увогуле фінансаванне можа ажыццяўляцца з трох крыніц. Па-першае, бюджэтныя сродкі. Падругое, сродкі нейкага буйнога прадпрыемства. Па-трэцяе, сродкі прыватных структур.

Бюджэтныя сродкі не павінны быць вялікімі, яны трэба проста для таго, каб каманда існавала, выконвала сацыяльную функцыю, каб на стадыёне праводзіліся матчы.

Сродкі буйнога прадпрыемства ўкладваюцца ў рэкламных мэтах, каб узняць прэстыж прадпрыемства, прадставіць яго на ўзроўні ўсёй краіны.

Прыватныя сродкі, за якія можа існаваць каманда, паказваюць любоў да футбола з боку спадароў-бізнесменаў. Прадпрымальнікі такім чынам могуць рэалізаваць сваю балельшчыцкую натуру і, магчыма, знайсці новыя дзелавыя кантакты па рэспубліцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

| Год | Галоўны трэнер | Месца | Матчы |
|---|---|---|---|
| 2005 | Уладзімір Лук'яненка | дванаццатае | 26 |
| 2006 | Руслан Лукін | шаснаццатае | 32 |
| 2007 | Руслан Лукін | чатырнаццатае | 30 |
| 2008 | Аляксандр Гармаза | восьмае | 30 |
| 2009 | Аляксандр Гармаза | **ТРЭЦЯЕ** | 26 |
| 2010 | Аляксандр Гармаза | чацвертае | 34 |
| 2011 | Аляксандр Гармаза | чацвертае | 30 |
| 2012 | Аляксандр Гармаза | пятнаццатае | 36 |
| 2013 | Дзяніс Мятліцкі | дзясятае | 24 |
| 2014 | Дзмітры Ганчароў | шаснаццатае | 24 |

БАТЛ СПАРТСМЕНАЎ

# Які від спорту лепшы?

**Напярэдні Новага года ўсе падводзяць вынікі. Хто стаў лепшым, хто дасягнуў новых вяршынь, хто дамогся новых перамог або ўсталяваў новы рэкорд.**

Мы запыталіся ў прадстаўнікоў розных відаў спорту, што адбылося новага ў іх спартыўнай кар'еры ў 2014 годзе. І чаму від спорту, які абралі героі артыкула, – самы лепшы.



**Анастасія Шалімава**, кандыдат у майстры спорту па акрабатыцы, майстар спорту па спартыўнай гімнастыцы, Маладзечна:

– Сёлета новых дасягненняў у гімнастыцы не было. Затое я стала займацца новым для сябе спортам – чырлідынгам. Першы год заняткаў і першая перамога.

А гімнастыка – гэта адзін з самых цікавых і цяжкіх відаў спорту. Яна настолькі разнастайная, ад акрабатычных элементаў да выдатнай харэаграфіі. Гімнастыка развівае сілу, цягавітасць, гнуткасць, працавітасць, дысцыпліну.




**Пётр Бірко**, баец ММА (змешаныя адзінаборствы), Маладзечна:

– 2014-ы запомніцца перамогай на турніры ў Курску і ўзнагародай за лепшыя баі ад самога Павецкіна, і першым прафесійным боем па ММА. ММА лепшае за ўсе адзінаборствы тым, што ў нашым спорце ёсць месца ўсім. Калі ты змагар – выходзь і змагайся, калі ты ўдарнік – бі. У ММА самая вялікая разнастайнасць прыёмаў і ўдараў. І яшчэ, наш спорт – адзін з самых папулярных у свеце.



**Віталь Качаткоў**, шахматыст, майстар спорту, віцэ-чемпіён Беларусі, віцэ-чэмпіён свету сярод непрафесіяналаў, Маладзечна.

– Што датычыцца менавіта мяне, то з дасягненнямі я пакуль пас. Пішу і спяваю песні, нікога не крыўджу. А ў сусветным маштабе, Магнус Карлсан перамог Вішы Ананда. Гэта – змена эпох. Шахматы – унікальны сплаў навукі, мастацтва і спорту. Менавіта тры складнікі робяць гэту гульню вечнай і значнай у культуры чалавецтва. Прыняўшы рашэнне ўсур'ёзна заняцца шахматамі не па прымусе, а па сваім розуме, я і цяпер, праз 30 год, не бачу альтэрнатывы шахматам ва ўменні развіць у маладых людзях логіку, здаровы сэнс і інтэлект.



**Аляксандр Галоўскі**, кандыдат у майстры спорту па плаванні, член нацыянальнай зборнай Беларусі, Маладзечна:

– Сёлета стаў пераможцам Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі на дыстанцыі 1000 метраў брасам.

Плаванне я лічу лепшым відам спорту, таму што ў гэтым відзе спорту працуюць усе групы мышцаў. Яно дазваляе трымаць цела пастаянна ў тонусе. Ды і ўменне проста плаваць лішнім не будзе ніколі. У нас у Маладзечне вельмі добрая школа плавання стылем брас. А калі будуць добрыя вынікі, то можна аб'ездзіць шмат краін.



**Андрэй Русак**, дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра ў Мядзеле, трэнер па валейболе, Мядзел:

– Лічу, што валейбол самы лепшы від спорту. Параўнаем, напрыклад, з такім папулярным відам спорту, як футбол. Там можна паўтары гадзіны прабегаць – і без толку, лік будзе 0:0. А ў валейболе ты пастаянна ў гульні, кожную секунду разыгрываюцца сітуацыі. У валейболе не можа быць нічыёй, заўсёды ёсць пераможца. Яшчэ валейбол выхоўвае характар. Не толькі я адзін заўважыў, што валейбалісты – адны з самых культурных спартсменаў. Бо ў параўнанні з іншымі гульнявымі відамі спорту, валейбол – некантактны від, тут менш агрэсіі.



**Віталь Будай**, гулец смаргонскай каманды па міні-футболе, Смаргонь:

– Чаму для мяне футбол самы-самы? Таму што гэта маё хобі. Гуляеш і атрымліваеш масу пазітыву. Футбол адрозніваецца ад іншых відаў спорту папулярнасцю, маштабнасцю. А ці трэба ім займацца? Гэта выбар кожнага. Сёння створаны добрыя ўмовы для заняткаў футболам. Але раіў бы пахадзіць на розныя секцыі, паспрабаваць. А ўжо потым выбраць від спорту, які будзе падабацца больш за ўсё.

**Наталля ТУР,**
**Алесь ВЫСОЦКІ.**



● РЭПЕРТУАРЫ

## У дні зімовых канікулаў кінатэатр "Радзіма" запрашае



Кадр з мультфільма "7-ы гном". Германія, 2014

26 снежня. Анімацыя "**7-ы гном**", цана 15 000 рублёў.

27 снежня. Прыгоды "**Цімур і каманда**", цана 10 000 рублёў.

28 снежня. Прыгоды "**Цімур і каманда**", цана 10 000 рублёў.

29 снежня. Анімацыя "**7-ы гном**", цана 15 000 рублёў.

30 снежня. Прыгоды "**Неверагоднае перамяшчэнне**", цана 15 000 рублёў.

31 снежня. Анімацыя "**Кароль сафары**", цана 15 000 рублёў.

Пачатак сеансаў у 10:30.



● КОНКУРСЫ

## Вікторыя Мігановіч са Смаргоншчыны не трапіла ў спіс 25 лепшых на "Міс свету-2014"

**СМАРГОНЬ.** У Лондане 14 снежня прайшоў конкурс "Міс свету-2014". Нашу краіну прадстаўляла "Міс Беларусь-2014" **Вікторыя Мігановіч.** Яна нарадзілася ў вёсцы Ракаўцы Смаргонскага раёна. Там скончыла базавую школу, у 10-11 класах вучылася ў Крэўскай школе.

У конкурсе ўдзельнічалі прадстаўніцы больш як 120 краін. Вікторыя не трапіла ў спіс 25 лепшых удзельніц конкурсу. "Міс свету-2014" стала Ролін Строс з Паўднёвай Афрыкі.

Вікторыі Мігановіч – 22 гады. Цяпер яна вывучае правы ў юрыдычным інстытуце ў Маскве. Плануе пасля заканчэння вучобы адкрыць уласную кансультацыю. Вікторыя любіць падарожнічаць і вывучаць культуры іншых краін.

Прыгажуня падтрымлівае сябе ў форме, катаецца на веласіпедзе, плавае і займаецца ёгай. Захапленне Вікторыі – рабіць касметыку ўласнымі рукамі для сябе і сяброў. Любіць музыку. У яе ёсць хатні ўлюбёнец – сабака пароды тэр'ер, піша belta.by.

**Аддзел інфармацыі.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | | | | 8 | | | |
| 5 | 4 | | 6 | | | 2 | | |
| | | | | 4 | | | | 9 |
| | 3 | | | | 1 | | 6 | 2 |
| | | 5 | | 9 | | 4 | | |
| 6 | 2 | | 8 | | | | 9 | |
| 2 | | | | 8 | | | | |
| | | 7 | | | 2 | | 5 | 4 |
| | | | 5 | | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Феі: Легенда пра пачвару**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 16:00
29 снежня – у 15:30 (цана білета: 25 000 рублёў)
31 снежня – у 13:30
27 снежня – у 14:00
28 снежня – у 15:00 (30 000 рублёў)

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**", 3D (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 14:00
30 снежня – у 14:30 (цана білета: 25 000 рублёў)
27 снежня – у 16:00
28 снежня – у 17:00 (30 000 рублёў)

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Пінгвіны Мадагаскара**", 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 снежня – у 13:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**", 3D (ЗША, Новая Зеландыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26, 27 снежня – у 18:00
28, 30 снежня – у 21:00
29 снежня – у 17:30 (цана білета: 55 000 рублёў)
31 снежня – у 15:30 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Навагодняя камедыя, драма "**Ёлкі 1914**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26, 27 снежня – у 21:30
28, 30, 31 снежня – у 19:00
29 снежня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
30 снежня – у 16:30
Цана білета: 35 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Паштальён Пэт**" (Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 16:30
27 снежня – у 14:30
28 снежня – у 16:00

Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**7-ы гном**" (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 снежня – у 14:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
27 снежня – у 16:30
28 снежня – у 14:00 (20 000 рублёў)

Трылер, жахі "**Таямніца перавалу Дзятлава**" (Расія, ЗША, 2013, пасля 16 год)
26 снежня – у 21:00
28 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Анёл-ахоўнік**" (Германія, 2012, пасля 16 год)
26 снежня – у 18:30
27 снежня – у 21:00
29 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыйная меладрама "**Каханне па рэцэпце і без**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, пасля 16 год)
27 снежня – у 19:00
28 снежня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка "**Пасвечаны**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 снежня – у 21:30
31 снежня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Тэрабітыю**" (ЗША, 2007, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 снежня – у 14:00
31 снежня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
31 снежня – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Лепшыя першыя прэм'еры Новага года

**Ад 1 студзеня:**
- Фэнтэзі, прыгоды, сямейная "**Сёмы сын**", 3D (ЗША, Канада, Вялікабрытанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
- Анімацыйная камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**", 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
- Анімацыйныя прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)

**Ад 7 студзеня:**
- Гістарычная драма "**Зыход: Цары і багі**", 3D (ЗША, Іспанія, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Хоць раз у жыцці**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25, 28 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 снежня – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Красуні ў Парыжы**" (Францыя, з 18 год)
25, 26, 27, 28 снежня – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**ОЗ: Вяртанне ў Ізумрудны горад**" (ЗША, Індыя, без узроставых абмежаванняў)
27, 28 снежня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Прыгоды "**Белыя Росы. Вяртанне**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Неверагоднае перасоўванне**" (Беларусь, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
31 снежня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Каханне па рэцэпце і без**" (ЗША, з 16 год)
31 снежня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**" (3D, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
25, 26, 31 снежня – у 16:00
28 снежня – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Навагодняя камедыя "**Ёлкі 1914**" (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
25, 26, 31 снежня – у 18:00,
25 снежня – у 20.30
27 снежня – у 20:00
28 снежня – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі/прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**" (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 снежня – у 20:30
27 снежня – у 17:00
28 снежня – у 19:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя "**Феі: Легенда аб пачвары**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
27 снежня – у 15:00
Цана білета – 30 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП

**26 СНЕЖНЯ – 1 СТУДЗЕНЯ**



**Авен.** Атрымлівайце асалоду ад навагодніх святаў. Акунайцеся ў навагоднюю і калядную казку. З Калядамі і Новым годам Вас!



**Цялец.** Хочацца лётаць, аднак час ад часу прыйдзецца спускацца на зямлю і займацца паўсядзённымі руціннымі справамі. І ўсё ж гэтыя дні ўселяць аптымізм, падораць радасныя і незабыўныя моманты. Шчасця Вам у Новым годзе!



**Блізняты.** Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць. З зімовымі Вас святамі!



**Рак.** У вас будуць мільёны (!) магчымасцяў, каб увасобіць у жыццё любыя планы, нават самыя патаемныя і неймаверныя. Так што бярыце лейцы лёсу ў свае рукі і кіруйце імі так, як вам хочацца. З зімовымі святамі Вас!



**Леў.** Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў вас час. З Калядамі і Новым годам Вас!



**Дзева.** Усе гэтыя дні вы будзеце атрымліваць асалоду з раніцы да вечара, смакуючы кожнае імгненне. З Новым годам і Калядамі Вас!



**Шалі.** Вам цяжка быць аднаму. Але не трэба засмучацца. Лепш успомніце пра хобі ці схадзіце ў якое-небудзь цікавае месца, дзе вам не будзе сумна ў адзіноце. З Калядамі і Новым годам Вас!



**Скарпіён.** Цяпер вам не трэба ставіць ніякіх грандыёзных задач, не трэба нічога даказваць – ні сабе, ні іншым. Вазьміце часовую перадышку, расслабцеся і адпачывайце. З Калядамі і Новым годам Вас!



**Стралец.** Калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану. Са святамі Вас!



**Казярог.** Стаўце перад сабой мэты і ідзіце насустрач ім, хоць і невялікімі крокамі, але ўпэўненымі. І ніколі не кажыце сабе не. З Божым нараджэннем і Новым годам Вас!



**Вадалей**. Зоркі рыхтуюць вам паляпшэнне матэрыяльнага стану. Шчаслівых Вам Калядаў і Новага года!



**Рыбы.** Менавіта ў гэтыя дні у вас з'явіцца шанец сустрэць свой лёс. Нават калі вы не пражываеце ўсё жыццё разам, гэта сустрэча значна паўплывае на ваша жыццё ў добрым сэнсе гэтага слова. З Калядамі і Новым годам Вас!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27




## НАДВОР'Е

**27 снежня, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -4 / -1 | | | -3 / -1 | | | -5 / -3 | | | -6 / -5 | | |
| | 746 | → | 1 | 744 | ↑ | 5 | 742 | ↙ | 8 | 740 | ↓ | 4 |
| Вільня | -4 / 0 | | | -2 / 0 | | | -3 / -6 | | | -2 / 0 | | |
| | 755 | → | 4 | 751 | ↗ | 7 | 753 | ↙ | 6 | 739 | ↓ | 6 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне


Усход 9.33
Захад 16.54
Даўжыня дня 7.21


Усход 12.16
Захад -
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- Зіма цёплая – сіроцкая.
- Зіма гультая марозіць.
- Зіма – не лета, у кажух адзета.
- Сініцы раніцай падымуць піск – ноччу будзе мароз.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што вам запомнілася ў гэтым годзе?



**Аляксей Клімко, навучэнец політэхнічнага каледжа:**

– Цяжкі год, бо я перайшоў на чацверты курс. Аднак стаў лепш вучыцца. Таксама сёлета мой сябр прыйшоў з арміі, сястра пайшла ў першы клас.



**Эмілія Шабуня, школьніца:**

– Год вельмі хутка праляцеў. Радуе тое, што з'явіліся новыя сябры.



**Вера Ганчарык, медыцынская сястра:**

– Сёлета мая ўнучка выйшла замуж, таму для маёй сям'і гэта самая знакавая падзея.



**Васіль Сарачынскі, працуе ў "Камунальніку":**

– Вельмі хутка прайшоў год. Асаблівых падзей не было, усё, як і звычайна. Запомніўся Дзень Незалежнасці ў парку Перамогі.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

## Чытайце праз тыдзень:

**Неўзабаве прыйдзе новы 2015 год. Што чакае у год Сіняй Драўлянай Казы кожнага са знакаў задыяка. Парады, як зрабіць год лепшым, чытайце праз тыдзень у гараскопе "Рэгіянальнай газеты".**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 52 (1026) 26.12.2014. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1721. Падпісана ў друк у 17.00 23.12.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.